Каханоускі А.Г. Структура занятасці насельніцтва Беларусі на мяжы XIX – XX стст. / А.Г. Каханоускі // Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 8 / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. - Минск: БГУ, 2013. - С. 62-67.

**А. Г. Каханоўскі**

# СТРУКТУРА ЗАНЯТАСЦІ НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ НА МЯЖЫ XIX—XX стст.*

У артыкуле на аснове апублікаваных матэрыялаў перапісу насельніцтва 1897 г. праведзены аналіз структуры заняткаў насельніцтва Беларусі. За аснову ўзяты даныя, якія фіксавалі галоўны занятак насельніцтва, што прыносіў асноўны даход, сродкі для існавання. Праведзена сістэматызацыя лічбавых звестак па 11 відах дзейнасці, разгледжаны асноўныя рысы структур занятасці беларускага, рускамоўнага, польскага і габрэйскага насельніцтва беларускіх губерняў. Асобна ахарактарызаваны асаблівасці размеркавання па групах заняткаў асоб, якія маюць самастойныя заняткі, і членаў іх сямей. Вылучаны рэгіянальныя адметныя рысы структуры занятасці насельніцтва Беларусі. Прыведзеныя даныя дазваляюць ахарактарызаваць кірунак і асаблівасці фарміравання рынку працы на тэрыторыі беларускіх губерняў на рубяжы XIX—XX стст.

The structure of the employment of Belarusian population is analyzed in the article on the basis of published materials of population census held in 1897. The research is based on the data, which recorded the main occupation of the population, bringing basic income. The systematization of the quantitative information on 11 types of activities is held; the main features of employment structures of Belarusian, Russian-speaking, Polish and Jewish population of Belarusian provinces are analyzed. The article described separately the particularities of the distribution groups of the self-employed people and their families. The distinctive regional characteristics of the employment structure of the Belarusian population are highlighted. The data presented allow characterizing the direction and specific features of the labor market formation in Belarusian provinces at the turn of the XIX—XX centuries.

*Ключавыя словы*: Беларусь, беларускія губерні, перапіс насельніцтва 1897, структура занятасці насельніцтва, рынак працы.

*Keywords*: Belarus, Belarusian province, population census in 1897, structure of employment, labor market.

Сацыяльны статус правамерна разглядаць як шматмерную характарыстыку становішча індывіда, як выніковую характарыстыку па асобных прыкметах. Сацыяльна-прафесійная структура, стратыфікацыя як зрэз сацыяльнай трансфармацыі грамадства з'яўляецца адным з найбольш істотных праз тую ролю, якую адыгрываюць сацыяльна-эканамічныя адрозненні людзей, іх узровень кваліфікацыі. Статыстыка занятасці насельніцтва дастаткова паказальная для характарыстыкі тых сацыяльных працэсаў, якія адбываліся ў грамадстве, пры фарміраванні рынка працы, змен у сацыяльнай структуры грамадства.

На 4-м Міжнародным статыстычным кангрэсе, які адбыўся ў 1860 г. у Лондане, а затым на 8-й Пецярбургскай сесіі кангрэса ў 1872 г. з улікам працэсаў пашырэння прафесіяналізацыі насельніцтва ў еўрапейскіх краінах было прызнана неабходным пры правядзенні перапісаў насельніцтва ўлічваць заняткі ці прафесіі самадзейнай часткі жыхароў [1, с. 322]. У апытальных лістах перапісу 1897 г. быў уведзены пункт, які фіксаваў галоўны занятак насельні-

* Статья выполнена в рамках подпрограммы научных исследований на 2011—2015 гг. «История и культура» ГПНИ «История, культура, общество и государство».

**Кохановский Александр Геннадьевич** — заведующий кафедрой истории Беларуси нового и новейшего времени Белорусского государственного университета, кандидат исторических наук, доцент. E-mail: kohanovsky@bsu.by

цтва, што прыносіў асноўны даход, сродкі для існавання, пабочны занятак. Занятак як крыніца даходаў не супадаў з паняццем «прафесія», паколькі ўлічваў таксама і тых, хто жыў за кошт капітала, пенсій і г. д. [1, с. 323]. У матэрыялах перапісу прысутнічаюць факты аб пабочных занятках сельскагаспадарчага насельніцтва, наяўнасць якіх можа быць ахарактарызавана як сведчанне пераходнага стану развіцця вёскі, недастатковасці сродкаў, якія атрымлівалі сяльскія жыхары ад асноўнага занятку, і неабходнасці мець дадатковыя заробкі [1, с. 324].

Беларускія даследчыкі не звярталіся да грунтоўнага аналізу структуры заняткаў насельніцтва паводле перапісу 1897 г. Выключэнне складае артыкул З. Шыбекі, дзе даследчык даў уласнае асэнсаванне сацыяльнага размежавання беларусаў у канцы XIX ст. [9]. Больш грунтоўны вопыт аналізу структуры заняткаў маюць расійскія даследчыкі П. Рындзюнскі [8], Н. Іванова, В. Жалтова [1].

У апублікаваных пагубернскіх выданнях матэрыялаў перапісу насельніцтва 1897 г. заняткі насельніцтва разнесены па 65 відах. Яны не дазваляюць вызначыць сацыяльнае становішча кожнага індывіда ў межах абазначаных відаў заняткаў (напрыклад, наёмны работнік, гаспадар), а толькі меркаваць аб занятку, які прыносіў асноўны даход. Асобна зафіксаваны тыя, хто меў самастойныя заняткі, і члены сем'яў. Пры распрацоўцы матэрыялаў перапісу не вызначана, хто аднесены да першых. Нярэдка, асабліва ў сельскай гаспадарцы, гэта главы сем'яў. У такім выпадку і члены сем'яў з вялікай доляй верагоднасці маглі ўдзельнічаць у выкананні рабочых функцый ў межах заняткаў, атрымліваць даход, знаходзіць сродкі да існавання ад тых жа заняткаў.

На аснове перапісу праведзена сістэматызацыя 65 відаў заняткаў па 11 групах: чыноўнікі; ваеннаслужачыя; духавенства і царкоўнаслужыцелі; вольныя прафесіі; ранцье і пенсіянеры; гандаль; транспарт і сувязь; прыватная служба, прыслуга, падзёншчыкі; сельская гаспадарка і лясныя промыслы; прамысловасць; пазбаўленыя волі, прастытуткі, нявызначыныя заняткі [1]. У групу «чыноўнікі» аднесены ўсе тыя, хто атрымліваў сродкі ад дзейнасці ў адміністрацыі, судзе, паліцыі, на грамадскай і саслоўнай службе. У групу духавенства і царкоўнаслужыцеляў уключаны тыя, хто меў духоўны сан, члены іх сем'яў і асобы, якія неслі службу пры цэрквах. Да прадстаўнікоў вольных прафесій прылічаны тыя, хто займаўся прыватнай юрыдычнай практыкай, вучэбнай, выхаваўчай працай, навукай, літаратурай, мастацтвам, урачэбнай і санітарнай дзейнасцю, службай пры дабрачынных установах. Асобна ўлічаны ранцье і пенсіянеры, якія атрымлівалі даходы з капіталаў, ад нерухомай маёмасці, сродкі ад казны, грамадскіх устаноў, прыватных асоб, жылі за кошт грашовай падтрымкі бацькоў і сваякоў. Да групы «транспарт і сувязь» — тыя, хто атрымліваў даход ад працы на чыгунцы, водным транспарце, пошце, тэлеграфе, ад рамізніцкага промыслу. Да групы «сельская гаспадарка і лясныя промыслы» аднесены тыя, хто перш за ўсё быў заняты земляробствам і жывёлагадоўляй, меў даход ад лясных промыслаў, рыбнай лоўлі, палявання. У групе «прамысловасць» ўлічаны ўсе працоўныя, звязаныя з рознымі формамі вытворчасці — ад рамесніцка-саматужнай да буйной фабрычна-заводскай, прычым у матэрыялах перапісу ўлічаны віды заняткаў у залежнасці ад характару перапрацоўваемага матэрыялу, сыравіны. У групе

[1] Да чыноўнікаў аднесены тыя, хто ў апублікаваных матэрыялах перапісу аб структуры заняткаў (табліцы 21, 22) абазначаны пад нумарамі 1 і 2, ваеннаслужачых — пад нумарам 4, духавенства і царкоўнаслужыцеляў — пад нумарамі з 5 па 8, да занятых вольнымі прафесіямі — пад нумарамі 3,9 — 12, ранцье і пенсіянераў — пад нумарамі 14 і 15, да занятых у сферы гандлю — пад нумарамі з 46 па 62, у сферы транспарту і сувязі — пад нумарамі з 41 па 45, занятых прыватнай службай, прыслугі, падзёншчыкаў — пад нумарам 13, занятых сельскай гаспадаркай і ляснымі промысламі — пад нумарамі з 17 па 21, у сферы прамысловасці — пад нумарамі з 22 па 40, пазбаўленых волі, прастытутак, нявызначаных заняткаў — пад нумарамі 16, 63—65.

«гандаль» улічаны розныя формы пасрэдніцкай дзейнасці, незалежна ад памераў абароту, але з улікам прадмета гандлю. Сюды таксама аднесены крэдытныя ўстановы, трыманне гасцініц, тракціраў і аб'ектаў абслугоўвання. Асобы, якія былі аднесены распрацоўшчыкамі перапісу да ліку пазбаўленых волі, прастытутак, людзей з нявызначанымі заняткамі, фактычна ўтваралі маргінальныя групы, так званае сацыяльнае дно.

**Структура заняткаў насельніцтва 35 паветаў Беларусі.** Першапачаткова мае безумоўную цікавасць размеркаванне насельніцтва 35 паветаў Беларусі па групах заняткаў, дзе ўлічаны разам і асобы, якія маюць самастойныя заняткі, і члены сем'яў. Так, уяўляецца лагічным для характарыстыкі структуры і сфер занятасці насельніцтва з улікам таго, што і непрацаздольныя члены сем'яў мелі сродкі для існавання з даходаў іншых членаў сем'яў ад тых заняткаў, якія былі абазначаны ў якасці асноўных. У 35 паветах Беларусі налічвалася 37 330 чалавек (0,6 %), якія існавалі з даходаў ад дзяржаўнай службы, 74 625 (1,2 %) — ад вайсковай службы, 33 890 (0,5 %) — ад царкоўнай службы, 59 821 (0,9 %) — ад заняткаў вольнымі прафесіямі, 103 965 (1,6 %) — з капіталаў і пенсій, 320 159 (4,9 %) — ад заняткаў гандлем, 110910 (1,7 %) — на транспарце і ў сувязі, 230 631(3,6 %) — прыватнай службай, прыслугай, падзёншчыкамі, 4 954 511 (76,3 %) — ад сельскай гаспадаркі і лясных промыслаў, 528 244 (8,1 %) — ад заняткаў у сферы прамысловай вытворчасці, 39 464 (0,6 %) — пазбаўленыя волі, прастытуткі і без пэўных заняткаў [3, с. 107—109; 4, с. 165—170; 5, с. 195—199; 6, с. 152; 7, с. 172].

Удзельная вага прадстаўнікоў вызначаных груп заняткаў мелі пэўную варыятыўнасць колькасных значэнняў па губернях. Найменшымі працэнтныя суадносіны занятых у сферы прамысловасці (6,7 %) і найбольшыя у сельскай гаспадарцы іляснымі промысламі (81,0 %) былі характэрны для беларускіх паветаў Віленскай губерні [3, с. 107—109]. Беларускія паветы Гродзенскай губерні вылучаліся найменшай ўдзельнай вагай занятых у сельскай гаспадарцы і ляснымі промысламі (72,1 %) і максімальнай для Беларусі прысутнасцю той часткі насельніцтва, якая была звязана з прамысловай вытворчасцю (9,2 %) [5, с. 195—199]. Беларускія паветы Віцебскай губерні вызначаліся найбольш высокай у Беларусі ўдзельнай вагай тых, хто быў звязаны з дзяржаўнай службай (0,82 %), а таксама з вольнымі прафесіямі (1,02 %), гандлем (5,43 %), ранцье і пенсіянераў (2,6 %) [4, с. 165—170]. Мінская губерня вызначалася найбольшай удзельнай вагай занятых на транспарце і ў сувязі (2,2 %) [6, с. 152].

**Структура заняткаў самадзейнага насельніцтва беларускіх губерняў і членаў іх сем'яў.** Для больш поўнай і дасканалай характарыстыкі варта прааналізаваць і структуру заняткаў насельніцтва ў межах беларускіх губерняў цалкам, у тым ліку раздзельна ўлічыць асоб, якія мелі самастойныя заняткі, а таксама членаў іх сям'яў. На тэрыторыі беларускіх губерняў налічвалася 52 726 чалавек (0,6 % ад агульнай колькасці насельніцтва), якія атрымлівалі сродкі для існавання праз дзяржаўную службу. У іх ліку 17 344 чалавек (32,9 %), што адносіліся да асоб, якія мелі самастойныя заняткі, і 35 382 членаў сем'яў [3, с. 106; 4, с. 164; 5, с. 194; 6, с. 152; 7, с. 172].

Тут налічвалася таксама 128 249 ваеннаслужачых (1,5 %), абсалютную большасць сярод якіх складала самастойнае насельніцтва (118 857 чалавек (92,7 %). Сярод 43 459 (0,5 %) прадстаўнікоў групы духавенства і царкоўнаслужыцеляў налічвалася 12 681 (29,2 %) асоб з самастойнымі заняткамі і 30 778 членаў сем'яў. У беларускіх губернях перапісам насельніцтва было зафіксавана 79 609 (0,9 %) чалавек, якія мелі дачыненне да вольных прафесій. З іх 29 152 (36,6 %) чалавек былі аднесены да самадзейных прадстаўнікоў групы, астатнія — да членаў сем'яў. Сярод 150 373 (1,8 %) ранцье і пенсіянераў 82 135 (54,6 %) чалавек былі аднесены да самастойных. Са сферай гандлю было звязана 432 466 (5,1 %) чалавек, у тым ліку 113 145 (26,2 %) асоб, якія мелі самастойныя заняткі. Група насельніцтва беларускіх губерняў, якая была звязана са сферай транспарту і сувязі, налічвала 158 556 (1,9 %) чалавек. У іх ліку зафіксавана перапісам 47 046 (29,7 %) асоб, якія мелі самастойныя заняткі. У беларускіх губернях было зафіксавана 332 934 (3,9 %) чалавек, якія мелі сродкі для існавання праз

заняткі прыватнай службай, у якасці прыслугі і падзёншчыкаў. Сярод іх налічвалася 187 113 (56,2 %) чалавек, якія аднесены да асоб з самастойнымі заняткамі. Натуральна, што найбольш шматлікай ў той час была група заняткаў, звязаная з сельскай гаспадаркай і ляснымі промысламі. У беларускіх губернях яна аб'ядноўвала 6 315 167 (74,1 %) чалавек, з іх 1 154 353 (18,3 %) чалавек адносілася да самадзейнага насельніцтва. Са сферай прамысловасці было звязана 770 033 (9,0 %) чалавек, у іх ліку 260 111 (33,8 %) асоб з самастойнымі заняткамі. Сярод 54 675 жыхароў беларускіх губерняў (0,7 %), якія былі аднесены да маргінальных груп (пазбаўленыя волі, прастытуцыя, нявызначаныя заняткі), налічвалася 32 950 (0,3 %) чалавек, якія былі аднесены да асоб, якія мелі самастойныя заняткі. Усяго ў беларускіх губернях налічвалася 2 054 887 (24,1 %) асоб, якія мелі самастойныя заняткі. Структура іх заняткаў некалькі адрозніваецца ад працэнтных суадносін раздзялення ўсяго насельніцтва па групах заняткаў. Сярод самадзейных жыхароў чыноўнікі складалі 0,8 %, ваеннаслужачыя — 5,8 %, духавенства і царкоўнаслужыцелі — 0,6 %, вольныя прафесіі — 1,4 %, ранцье і пенсіянеры — 4,0 %, гандаль — 5,5 %, транспарт і сувязь — 2,3 %, прыватная служба, прыслуга і падзёншчыкі — 9,1 %, сельская гаспадарка і лясныя промыслы — 56,2 %, прамысловасць — 12,7 %, пазбаўленыя волі, прастытуцыя, нявызначаныя заняткі — 1,6 % [3, с. 106; 4, с. 164; 5, с. 194; 6, с. 152; 7, с. 172].

Такім чынам, структура заняткаў насельніцтва ў межах беларускіх губерняў і 35 паветаў Беларусі вызначана дастаткова блізкімі па сваёй велічыні працэнтнымі суадносінамі, за выключэннем такіх груп, як сельская гаспадарка і лясныя промыслы, прамысловасць, дзе адрозненні па ўдзельнай вазе складалі 2,2 % (сельская гаспадарка і лясныя промыслы) і 0,9 % (прамысловасць).

Наогул 83,1 % насельніцтва беларускіх губерняў можна аднесці да яго прадукцыйнай часткі (сельская гаспадарка і лясныя промыслы, прамысловасць), 10,9 % — да напаловупрадукцыйнай, сферы абслугоўвання (гандаль, транспарт і сувязь, прыватная служба, прыслуга і падзёншчыкі), 4,2 % — да непрадукцыйнай сферы занятасці (чыноўнікі, ваеннаслужачыя, духавенства і царкоўнаслужыцелі, вольныя прафесіі, ранцье і пенсіянеры, пазбаўленыя волі, прастытуцыя, нявызначаныя заняткі). Для параўнання, па Расійскай імперыі гэтыя працэнтныя суадносіны маюць блізкія колькасныя значэнні і складаюць адпаведна 84,4 %, 10,1 %, 5,5 % [2, с. 501]. Сярод самадзейнага насельніцтва беларускіх губерняў удзельная вага прадукцыйнай яго часткі налічвала 68,9 %, напаловупрадукцыйнай — 16,9 %, непрадукцыйнай — 14,2 %. Па Расійскай імперыі гэтыя паказчыкі склалі адпаведна 70,5; 17,2; 12,3 %.

Паводле падлікаў П.Рындзюнскага, беларускія і літоўскія губерні ў канцы XIX ст. мелі самы нізкі па еўрапейскай частцы Расійскай імперыі паказчык удзельнай вагі асоб, якія прызнавалі ў якасці свайго самастойнага асноўнага занятку сельскую гаспадарку, але ў той жа час мелі «пабочныя» заняткі — 11,66 %. Па Еўрапейскай Расіі гэты колькасны паказчык склаў 19,62 % [8, с. 104].

**Размеркаванне па групах заняткаў прадстаўнікоў буйнейшых этнічных груп беларускіх губерняў.** Цікавасць для асэнсавання асаблівасцяў фарміравання рынку працы на тэрыторыі беларускіх губерняў уяўляе размеркаванне па групах заняткаў прадстаўнікоў найбольш шматлікіх этнічных груп — беларусаў, рускіх, палякаў, яўрэяў. У гэтым накірунку выкарыстаны даныя перапісу насельніцтва 1897 г. па ўсіх паветах беларускіх губерняў. У складзе іх насельніцтва налічвалася 5 408 420 беларусаў (63,5 % ад агульнай колькасці жыхароў), з іх 18 919 (0,4 %) звязана з дзяржаўнай службай, 17 628 (0,3 %) — з вайсковай службай, 10 516 (0,2 %) — з царкоўнай службай, духавенства, 9868 (0,2 %) — з вольнымі прафесіямі, 43 606 (0,8 %) — ранцье і пенсіянеры, 16 738 (0,3 %) — з гандлем, 34 235 (0,6 %) — з транспартам і сувяззю, 145 632 (2,7 %) — з прыватнай службай, прыслуга і падзёншчыкі, 4 951 697 (91,6 %) — з сельскай гаспадаркай і ляснымі промысламі, 137 237 (2,5 %) — з прамысловай вытворчасцю, 22 344 (0,4 %) — пазбаўленыя волі, прастытуткі, асобы з нявызначанымі заняткамі [3, с. 110—

113; 4, с. 172—178; 5, с. 202—205; 6, с. 158—161; 7, с. 178—182]. Вельмі нізкай у беларусаў была ўдзельная вага тых, хто меў занятасць у сферах прамысловасці, гандлю, на транспарце і ў сувязі. Варта адзначыць, што ўдзельная вага прадстаўнікоў па кожнай з вызначаных груп заняткаў прадстаўлена у разрэзе губерняў фактычна аднароднымі, мінімальна варыятыўнымі лічбамі.

Структура заняткаў рускіх, палякаў, яўрэяў у беларускіх губернях істотна адрознівалася ад прадстаўнікоў тытульнай нацыянальнасці. У структуры заняткаў рускіх (49 2921 чалавек (5,8 % ад колькасці насельніцтва беларускіх губерняў)) шматлікасцю вылучаліся занятыя сельскай гаспадаркай іляснымі промысламі (43,6 %), ваеннаслужачыя (15,4 %), занятыя ў прамысловасці (10,2 %). Акрамя таго, 6,8 % рускіх было занята на транспарце і ў сувязі, столькі ж прыватнай службай, у якасці прыслугі і падзёншчыкаў, 4,3 % — на дзяржаўнай службе, 5,0 % — ранцье і пенсіянераў, 2,6 % — вольнымі прафесіямі, 2,1 % — духавенства і царкоўнаслужыцелі, столькі ж — у сферы гандлю, 1,1 % — пазбаўленыя волі, прастытуткі, асобы нявызначаных заняткаў [3, с. 110—113; 4, с. 172—178; 5, с. 202—205; 6, с. 158—161; 7, с. 178—182].

На тэрыторыі беларускіх губерняў пражывала 424 236 палякаў (5,0 % ад агульнай колькасці іх насельніцтва). Найбольшая колькасць іх сканцэнтравана ў Гродзенскай (161 662 чалавек) і Віленскай (130 054 чалавек) губернях. Больш паловы палякаў (52,3 %) былі заняты сельскай гаспадаркай іляснымі промысламі, 13,9 % — на прыватнай службе, у якасці прыслугі і падзёншчыкаў, 13,5 % — у сферы прамысловасці [3, с. 110—113; 4, с. 172—178; 5, с. 202—205; 6, с. 158—161; 7, с. 178—182]. Па ўсіх абазначаных групах заняткаў назіралася адчувальная варыятыўнасць паказчыкаў удзельнай вагі па асобных губернях. Напрыклад, найменшы працэнт палякаў, якія былі звязаны з сельскай гаспадаркай і ляснымі промысламі, прысутнічаў у Віленскай губерні (40,7 %), максімальны — у Гродзенскай (64,9 %). Найменшая сярод палякаў ўдзельная вага занятых у прамысловасці ў Магілёўскай губерні (8,6 %), найбольшая — у Віленскай (16,4 %). Працэнт палякаў, асноўны занятак якіх быў звязаны з прыватнай службай, працай ў якасці прыслугі, падзёншчыкаў, адзначаны як максімальны ў Віленскай губерні (18,5 %), як мінімальны — у Гродзенскай (10,0 %). Не менш варыятыўныя паказчыкі і па іншых групах заняткаў, прычым разыходжанні паміж максімальнымі і мінімальнымі іх значэннямі часам трохкратныя. З ліку палякаў 6,8 % адносіліся да ліку ранцье і пенсіянераў, 5,0 % звязаны з такімі галінамі эканомікі, як транспарт і сувязь, 2,5 % — гандаль, а таксама 1,6 % — з дзяржаўнай службай, 1,5 % — вайсковай службай, 1,3 % — вольнымі прафесіямі, 0,5 % — царкоўнай службай, 1,1 % адносіліся да маргінальных груп насельніцтва.

У беларускіх губернях пражывала 1 202 129 яўрэяў (14,1 % ад колькасці іх насельніцтва), з іх найбольш пражывала ў Мінскай (343 466 чалавек) і Гродзенскай (278 542 чалавек) губернях, менш — у Віленскай (202 374 чалавек), Віцебскай (174 240 чалавек) і Магілёўскай (203 507 чалавек) губернях. Асноўная частка яўрэйскага насельніцтва звязана з такімі групамі заняткаў, як прамысловасць (40,1 %) і гандаль (32,3 %) [3, с. 110 — 113; 4, с. 172—178; 5, с. 202—205; 6, с. 158—161; 7, с. 178—182]. Канцэнтрацыя яго ў гэтых сферах дзейнасці часткова тлумачылася абмежавальнымі мерапрыемствамі расійскага ўраду. Удзельная вага іншых груп заўважна больш нізкая: 5,5 % яўрэяў атрымлівалі сродкі для існавання ад прыватнай службы, працы ў якасці прыслугі і падзёншыкаў, 5,3 % — ад сельскагаспадарчай вытворчасці і лясных промыслаў, 4,1 % — ад заняткаў вольнымі прафесіямі, 3,8 % — у якасці ранцье і пенсіянераў, 1,6 % — на царкоўнай службе, 0,6 % знаходзіліся на вайсковай службе, 0,2 % — на дзяржаўнай службе. Акрамя таго, 1,5 % яўрэяў адносілася да ліку маргінальных груп, тых, хто быў пазбаўлены волі, меў нявызначаныя заняткі. Колькасныя значэнні ўдзельнага весу кожнай з груп па асобных губернях у яўрэяў маюць невысокую ступень варыятыўнасці.

Паводле падлікаў Н. Івановай і В. Жалтовай на аснове аналізу перапісу насельніцтва 1897 г., беларусы сярод іншых этнічных груп еўрапейскай часткі Расійскай імперыі мелі найбольшую ўдзельную вагу тых, хто быў заняты ў сельскай гаспадарцы і самую невысокую — у сферы прамысловасці [1, с. 334—335]. Удзельная вага занятых у сферы гандлю сярод беларусаў была бы некалькі вышэй, чым у літоўцаў, якія мелі самы нізкі паказчык. Разам з украінцамі і літоўцамі ў беларусаў найменшы працэнт тых, хто задзейнічаны ў дзяржаўным кіраванні, грамадска-саслоўнай службе [1, с. 334—335]. Беларусы мелі прадстаўнікоў прафесій, якіх можна аднесці да інтэлігенцыі, некалькі больш за украінцаў і літоўцаў, аднак менш, чым у іншых этнічных груп еўрапейскай часткі Расійскай імперыі. У беларусаў таксама самая невысокая ўдзельная вага тых, хто быў заняты прыватнай службай, прыслугай, падзёншчыкам. У беларусаў адна з самых нізкіх удзельная вага асоб, якія мелі самастойныя заняткі (20,9 %). У украінцаў гэты паказчык складаў 22,8 %, у літоўцаў — 27,8 %, у рускіх — 28,1 %, яўрэяў — 30,2 %, палякаў — 31,7 %, латышоў — 37,9 %, эстонцаў — 38,0 % [1, с. 334].

Даныя не даюць магчымасці характарызаваць сацыяльна-маёмаснае становішча насельніцтва, вызначыць у поўнай меры месца кожнага з жыхароў у падзеле працы, вылучыць, напрыклад, у групе «прамысловасць» асобна наёмных работнікаў, прадпрымальнікаў, інжынерна-тэхнічных работнікаў і інш. Аднак падлікі дастакова выразна дазваляюць вызначыць сферу занятасці насельніцтва, стан і накірунак развіцця рынку працы на тэрыторыі беларускіх губерняў на мяжы XIX—XX стст.

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫЯ СПАСЫЛКІ

1. *Иванова Н. А., Желтова В. П.* Сословно-классовая структура России в конце XIX — начале XX века. М. : Наука, 2004. 574 с.

2. *Ленин В. И.* Полное собрание сочинений: в 55 т. / Институт марксизма-ленинизма при ЦК КПСС. М. : Госполитиздат, 1958—1965. Т. 3: Развитие капитализма в России. 1958. 792 с.

3. Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. / под ред. Н. А. Тройницкого. Вып. IV: Виленская губерния. Тетр. 3. СПб. : Изд. центр. стат. ком. М-ва внутр. дел, 1903. XI, 179 с.

4. Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. / под ред. Н. А. Тройницкого. Вып. V: Витебская губерния. Тетр. 3. СПб. : Изд. центр. стат. ком. М-ва внутр. дел, 1903. XIV, 281 с.

5. Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. / под ред. Н. А. Тройницкого. Вып. XI: Гродненская губерния. СПб. : Изд. центр. стат. ком. М-ва внутр. дел, 1903. XV, 319 с.

6. Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. / под ред. Н. А. Тройницкого. Вып. XXII: Минская губерния. СПб. : Изд. центр. стат. ком. М-ва внутр. дел, 1904. XVI, 243 с.

7. Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. / под ред. Н. А. Тройницкого. Вып. XXIII: Могилевская губерния. СПб. : Изд. центр. стат. ком. М-ва внутр. дел, 1903. XV, 275 с.

8. *Рындзюнский П. Г.* Крестьяне и город в капиталистической России второй половины XIX века (Взаимоотношения города и деревни в социально-экономическом строе России). М. : Наука, 1983. 270 с.

9. *Шыбека З. В.* Сацыяльнае размежаванне беларусаў у канцы XIX ст. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1991. № 6. С. 65—72.

Статья поступила в редакцию 27 декабря 2012 г.